**Сузнавацца**—сознаваться (в вине).
**Сузнаньне** *н.*—сознание (вины).
**Сузор'е** *н.*—созвездие. НТ$_{8}$.
**Сукаленца** *н.*—междоузлие.
**Сукала** *ж.*—станок для сучения ниток.
**Сукам**—неподвижно.
**Сукоты**—суковатый.
**Суквецьце** *н.*—соцветие. НТ$_{6}$.
**Сукенка** *ж.*—женское платье.
**Сукенны** *см.* **суконны**.
**Сукенца** *н.*—суконце.
**Сукладальны**—комбинаторный, комбинационный. НТ$_{1}$.
**Складаньне** *н.*—составление, комбинация, композиция.
**Сукня** *ж.*—платье из фабричной ткани.
**Суконка** *ж.*—суконная онуча.
**Суконны**—суконный (*ср.* **сукенны**).
**Сукоснасьцен** *м.*—ромбоедр. НТ$_{1}$.
**Сукосьнік** *м.*—ромб. НТ$_{1}$.
**Сукравіца** *ж.*—водянистая кровь, сукровица.
**Сукрыта** *прс.*—скрыто (*Думае сукрыта.* Я. Кол. НЗ XVIII).
**Суладзьдзе** *н.*—гармония, согласие.
**Суладнасьць** *ж.*—гармоничность.
**Суладны**—гармонический.
**Сулдыга** *ж.*—кость ноги от колена до пятки (*ср.* **дыгаць** и **ладыга**)
**Сум** *м.*—сомнение, печаль.
**Сума** *ж.*—сумма.
**Суманьне** *н.*—суммирование. НТ$_{1}$.
**Сумаваць** *што*—суммировать.
**Сумежна,-ны**—смежно,-ный.
**Сумесна,-ны**—совместно,-ный
**Сумесь** *ж.*—смесь.
**Суметы** *м. мн.*—снежные заносы.
**Сумець** *ж.*—метель.

**Сумленна**—совестно, добросовестно, честно.
**Сумленнасьць** *ж.*—совестливость, честность
**Сумленны**—совестливый, добросовестный, честный,
**Сумленьне** *н.*—совесть.
**Сумнеўны**—сомнительный.
**Сумненьне** *н.*—сомнение (*ср.* **сум**).
**Сумнік** *м.*—золотарник (*бот.* Solidago L.). НТ$_{6}$.
**Сумножнік** *м.*—сомножитель, производитель (*мат.*) НТ$_{1}$.
**Сумняволнасьць** *ж.*—скептицизм НТ$_{2}$.
**Сумняволнік** *м.*—скептик.
**Сумяшчальнасьць** *ж.*—совместимость (НТ$_{1}$); совмещение (НТ$_{6}$).
**Сумяшчальны**—совместимый.
**Сумяшчэньне** *н.*—совмещение
**Суніцы** *ж. мн.*—земляника, лесная клубника (*бот.* Fragaria vesca L.).
**Суніцны**—земляничный.
**Суножка** *ж.*—перекладина между ножками стола.
**Сунуць** *каго, што*—сунуть, тронуть, двинуть.
**Супаданьне** *н.*—совпадение. НТ$_{1}$.
**Супадаць, супасьці**—совпадать,-пасть.
**Супадлеглясьць** *ж.*—соподчинение. НТ$_{6}$.
**Супакой** *м.*—спокойствие.
**Супакойна,-ны**—спокойно,-ный
**Супакорны** *прс.*—покорны.
**Супал** *прс.*—пополам.
**Супар** *м.*—соперник, конкурент.
**Супастава** *ж.*—параллелизм (*лит.*). НТ$_{2}$.
**Суполка** *ж.*—общество: кооператив.
**Супольна**—совместно:



**Супольнаасяродкавы**—концентрический. НТ$_{1}$.
**Супольнамерны**—соизмеримый (*Супольнамерныя велічыні.* НТ$_{1}$)
**Супольнасьць** *ж.*—совместность, общность.
**Супольнік** *м.*—член артели, соучастник.
**Супольны**—общий, совместный.
**Супольня** *ж.*—община.
**Супольства** *н.*—сообщество.
**Супоніць**—стягивать супонь.
**Супоня** *ж.*—супонь.
**Супор** *м.*—сопротивление.
**Супрадкі** *ж. мн.*—посиделки.
**Супражка** *ж.*—пристяжка.
**Супраціў**—напротив.
**Супраціўленьне** *н.*—сопротивление. НТ$_{1}$.
**Супрацьўнасьць** *ж.*—противность, противоположность; контраст.
**Супрацьўнік** *м.*—противник.
**Супрацьўны**—противный, контрастный.
**Супрацоўнік** *м.*—сотрудник.
**Супрацоўніцтва** *н.*—сотрудничество.
**Супрацоўнічаць**—сотрудничать.
**Супраць**—против, вопреки.
**Супрон** *м. ўл.*—*см.* Сапрон.
**Супрэчка** *ж.*—спор, дискуссия. НТ$_{1}$
**Супрэчны**—спорный, дискуссионный.
**Супыніць** *каго, што*—остановить.
**Супярэчнасьць** *ж.*—противоречие, противоречивость.
**Супярэчнік** *м.*—спорщик, оппонент. НТ$_{1}$
**Супярэчны**—противоречащий, противоречивый.
**Супярэчыць**—возражать, оппонировать. НТ$_{6}$

**Супясок** *м.*—супесь. НТ$_{6}$.
**Суравежка** *ж.*—сыроежка. (Agaricus ruber).
**Суразьмернасьць** *ж.*—соразмерность, симметрия. НТ$_{1}$.
**Суразьмерны**—соразмерный, симметричный.
**Сурдут** *м.*—сюртук.
**Сурдутны**—сюртучный.
**Сурдуцік,-дучок** *м.*—сюртучок.
**Суровыя ніткі**—серые нитки.
**Сусед** *м.*—сосед.
**Суседзкі**—соседский, соседний
**Суседзтва** *н.*—соседство.
**Сусек** *м.*—закром.
**Сусла** *ж.*—1) сусло; 2) соска; 3) сосулька, сопля.
**Сусолка** *ж.*—1) соска; сосочек; 2) сосулька.
**Сустаў** *м.*—сустав.
**Сустракацца** *з кім.*—встречаться.
**Сустракаць** *каго*—встречать.
**Сустрэча** *ж.*—встреча.
**Сустрэчны**—встречный.
**Сусьвет** *м.*—вселенная.
**Сусьветнік** *м.*—космополит. НТ$_{6}$.
**Сусьветны**—вселенский, мировой, космический.
**Сусьлі** *ж. мн.*—сопли.
**Сусьлік** *м.*—сосун.
**Сусьліцца**—замасливаться.
**Сусьліць** *што*—1) сосать; 2) замасливать.
**Сутанець** *дзс. безас.*—смеркаться Я. Кол. Водг. 37 ст.
**Сутарэньне** *н.*—подвальное помещение.
**Сутычкі** *ж. мн.*—закоулок между зданиями; отхожее место.
**Сутока** *ж.*—место стечения рек. НТ$_{1}$.
**Сутрымацца**—придержаться, остановиться.
**Сутрымаць** *каго, што*—придержать, остановить.

**Сутычка** *ж.*—столкновение. Яз. Лёс. Км.
**Сухадарожны**—сухопутный. Яз. Лёс. Км.
**Сухадол** *м.*—безводный овраг.
**Сухадушны**—тщедушный.
**Сухазем'е** *н.*—суша, континент.
**Сухаземны**—сухопутный, континентальный.
**Сухалес** *м.*—сухие деревья.
**Сухалоз** *м.*—сухой лозьняк.
**Сухалюбны**—ксерофильный. НТ$_3$
**Сухарлявасьць** *ж.*—худощавость.
**Сухарлявы**—худощавый, тощий.
**Сухастой** *м.*—дерево, усохшее на корню.
**Сухата** *ж.*—сухость.
**Сухмень** *ж.*—сушь, засуха, бездождие.
**Сухотнік** *м.*—чахоточный мужчина.
**Сухотніца** *ж.*—чахоточная женщина.
**Сухотны**—чахоточный, туберкулезный.
**Сухоты** *ж. мн.*—чахотка, туберкулез.
**Сухоўрыца** *ж.*—сухоядение.
**Суцэль**—всецело, вполне.
**Суцэльнасьць** *ж.*—цельность, полнота.
**Суцэльны**—цельный, целый
**Сучаскі** *ж. мн.*—льняные очески.
**Сучаснасьць** *ж.*—современность.
**Сучасны**—современный.
**Сучаснік** *ж.*—современник.
**Сучка** *ж.*—1) сука; 2) сучение.
**Сучны**—сукин, сучий.
**Суша** *ж.*—сушь.
**Сушніца** *ж.*—сушеница (*бот.* Gnaphalium L.). НТ$_6$.

**Сфальшаваць** *непер.*—изменить, слукавить; *што*—подделать.
**Сфальшаваны**—поддельный.
**Сфальшаваньне** *н.*—подделка.
**Схаваны, схованы**—спрятанный.
**Схавацца**—спрятаться.
**Схаваць** *каго, што*—спрятать.
**Схамянуцца**—спохватиться.
**Схапваць, схапнуць, схапіць** *што, каго*—схватывать,-тить.
**Схарчавацца,-чыцца**—издержать на еду, проесться.
**Схібіць**—сделать промах, ошибиться.
**Схіл** *м.*—склон.
**Схілены**—склоненный.
**Схіленьне** *н.*—склонение.
**Схілісты**—наклонный.
**Схіляцца,-ліцца**—склоняться, -ниться; наклоняться,-ниться.
**Схіляць,-ліць** *што*—склонять, -нить
**Схіснуцца**—пошевелиться. (*На зэдлі Я ладзік схіснуўся.* Я. Кол. НЗ ш.)
**Сховы** *м. мн.*—хранилище.
**Сход** *м.*—1) собрание; 2) луна в третьей фазе.
**Сходаць** *што*—одолеть (*Стодаць, скеміць, пераняць.* Ян. К Шл. ж. 167 ст.).
**Сходзень** *м.*—ступенька.
**Схоў** *м.*—хранение.
**Сштурхнуты**—сброшенный сверху вниз, столкнутый.
**Сштурхнуць,-хануць** *каго, што*—столкнуть, сбросить.
**Сшываць** *што*—сшивать.
**Сшытак** *м.*—тетрадь, брошюра.
**Сыканьне** *н.*—шипение (змеи).
**Сыкаць**—шипеть.
**Сымболь** *м.*—символ.
**Сынагога** *ж.*—1) синагога; 2) *пе.* важный,-ная.
**Сыновая** *нк ж.*—невестка.



**Сыновы**—сыновний.
**Сынтакс** *м.*—синтаксис.
**Сыпкасьць** *ж.*—сыпучесть.
**Сыпкі**—сыпучий.
**Сыравізна,-рызна** *ж.*—1) сырость; 2) с'едобная зелень.
**Сырадой** *м.*—парное молоко.
**Сыраежка** *ж.*—*см.* **сураежка**.
**Сыраквашa** *ж.*—простокваша.
**Сыроватка** *ж.*—сыворотка.
**Сырок** *м.*—дождевик (гриб).
**Сыры**—сырой.
**Сырэц** *м.*—невыделанная кожа.
**Сысаньне** *н.*—сосание.
**Сысаць** *што*—сосать.
**Сысок** *м.*—присоска, сосальце (*бот.* haustoria). НТ$_{11}$.
**Сыспаду** *прс.*—снизу.
**Сысун** *м.*—сосун.
**Сысуны** *м. мн.*—млекопитающие (Mammalia) ЗТ.
**Сыта** *ж.*—подслащенная медом вода.
**Сыты**—1) сытый; 2) жирный.
**Сыць** *ж.*—насыщение, сытость.
**Сыч** *м.*—сыч, ненасыть.
**Сычаць**—сипеть, свистеть.
**Сычачы гук**—свистящий звук. Тр. Гр.
**Сьведка** *ж.*—свидетель,-льница
**Сьведчаньне** *н.*—свидетельствование.
**Сьведчыць** *што*—свидетельствовать.
**Сьвербь** *м.*—зуд.
**Сьвердзел** *м.*—сверло, бурав. (*ср.* **сьвідар**).
**Сьвет** *м.*—мир.
**Сьветабудова** *ж.*—мироздание.
**Сьветагляд,-пагляд** *м.*—мировоззрение, миросозерцание. НТ$_2$
**Сьветазнаўства** *н.*—мироведение.
**Сьветаразуменьне** *н.*—миропонимание. Яз. Лёс. Км.
**Сьветаннік** *м.*—зверобой (*бот.* Hypericum perforatum. L.).

**Сьветла** *н.*—светло, свет.
**Сьветлазваротнасьць** *ж.*—тропизм. НТ$_8$.
**Сьветлы**—1) светлый, ясный; 2) ученый.
**Сьветнасьць** *ж.*—светлость.
**Сьветнік** *м.*—горицвет (*бот.* Lychnis L.).
**Сьвечка** *ж.*—свеча,-чка.
**Сьвідар** *м.*—*см.* **свердзел**.
**Сьвідзіна** *ж.*—дерен (*бот.* Cornus L.); **на чырвоная**—свиж (C. sanguinea L.). НТ$_6$.
**Сьвідравальны**—сверлильный.
**Сьвідраваньне** *н.*—сверление, буравление.
**Сьвідраваць** *што*—сверлить, буравить.
**Сьвідроўка** *ж.*—сверловка.
**Сьвідзрак** *м.*—буравчик.
**Сьвінакроп** *м.*—торица (*бот.* Spergula arvensis L.). НТ$_6$.
**Сьвінапас** *м.*—свинопас.
**Сьвінар** *м.*—свиновод.
**Сьвінарства** *н.*—свиноводство.
**Сьвінка** *ж.*—1) свинка; 2) свинуха (гриб).
**Сьвінтух** *м.*—1) свинтус; 2) невежа.
**Сьвінтушка** *ж.*—1) порося; 2) невежливая девушка.
**Сьвінушнік**—хлев для свиней.
**Сьвіньня** *ж.*—свинья.
**Сьвінячы**—свиной.
**Сьвінячыць**—сорить по свински.
**Сьвіран** *м.*—чулан, кладовая, амбар.
**Сьвіронак** *м.*—чуланчык.
**Сьвірыд** *м. ул.*—Спиридон.
**Сьвірэпіца,-рэпка** *ж.*—дикая редька, сурепица (*бот.* Raphanus Raphanistrum L.). НТ$_6$.
**Сьвірыч** *м.*—свищ, червоточина.
**Сьвістаць, сьвіснуць**—свистеть, свиснуть; ударить, настегать.

**Сьвістун** *м.*—1) орехи с свищем; 2) свиязь, утка-свищ; 3) фат.
**Сьвістушка** *ж.*—свисток.
**Сьвісь** *выкл.*—хвать (означает быстрый удар).
**Сьвісьцёлка** *ж.*—свирель.
**Сьвіта,-тка** *ж.*—сермяга.
**Сьвітаньне** *н.*—рассвет, сумерки утренние. НТ₂.
**Сьвітаць,-таця**—рассветать.
**Сьвіціцца**—просвечивает.
**Сьвішчык** *м.*—свисток.
**Сьвядома**—сознательно, с сознанием.
**Сьвядомасьць** *ж.*—сознание, сознательность.
**Сьвядомы**—сознательный.
**Сьвяжына,-жынка** *ж.*—свежее, парное мясо.
**Сьвякрова,-руха** *ж.*—свекровь.
**Сьвярбёта** *ж.*—чесание, свербеж.
**Сьвярбець**—чесаться.
**Сьвярбігуз** *м.*—свербига (*бот.* Bunias orientalis L.). НТ₆.
**Сьвярдзёлак** *м.*—буравчик.
**Сьвята** *н.*—праздник.
**Сьвятар** *м.*—священник.
**Сьвятачны**—праздничный.
**Сьвяткаваньне** *н.*—празднование.
**Сьвяткаваць** *што*—праздновать.
**Сьвятліца** *ж.*—горница.
**Сьвятлічка** *ж.*—горенка.
**Сьвятло** *н.*—свет; огонь (*ср.* **сьвечка**).
**Сьвятлыня** *ж.*—светлота.
**Сьвятляк** *м.*—светлячок, ивановский червяк.
**Сьвяты**—1) святой; 2) праздничный (*Сьвяты дзень*).
**Сьвяціць** *што*—святить, освящать.
**Сьвяціла** *н.*—светило. НТ₂.
**Сьлёзка** *ж.*—слезинка.
**Сьлепаваты**—подслеповатый.
**Сьлепавокі**—слабый глазами.
**Сьлепата** *ж.*—слепота.
**Сьлесар** *м.*—слесарь.
**Сьлёба** *ж.*—амальгама.
**Сьлібізаваньне** *н.*—чтение по складам.
**Сьлібізаваць**—читать по складам (*ср. лат.* Syllaba).
**Сьліва** *ж.*—слива (*бот.* Prunus domestica L.).
**Сьлівень** *м.*—медянка (змея).
**Сьлізкавата**—скользковато.
**Сьлізкаць**—скользить.
**Сьлізкацца**—кататься по льду на коньках.
**Сьлізкі**—скользский.
**Сьлізкота** *ж.*—скользкость.
**Сьлізнуць**—скользнуть.
**Сьлізякаты,-зявы**—слизистый.
**Сьлімак** *м.*—слизень, улитка.
**Сьлініць**—заслюнивать.
**Сьлінькі** *ж. мн.*—слюнки.
**Сьліна** *ж.*—слюна.
**Сьлінявы**—слюнявый.
**Сьліўняк** *м.*—сливовая заросль.
**Сьліўшанёвыя**—вертляницевые (растения). НТ₈.
**Сьліўшанка** *ж.*—подъельник многоцветковый (*бот.* Monotropa Hypopitys L.). НТ₆.
**Сьляза** *ж.*—слеза.
**Сьляпак** *м.*—слепец.
**Сьляпень** *м.*—слепень (Tabanus bovinus). ЗТ.
**Сьляпіць**—ослеплять.
**Сьляпун** *м.*—слепыш (Spalax typhlus). ЗТ.
**Сьляпы**—слепой.
**Сьметанковы**—сливочный (*ср.* **сьмятанка**).
**Сьмецьце** *н. зб.*—сор.
**Сьмешачкі** *ж. мн.*—шуточки.
**Сьмешкі** *ж. мн.*—шутки.
**Сьмешна,-ны**—смешно,-ной.
**Сьмяглы**—засохший от жары.
**Сьмягнуць**—вянуть, засыхать от жары.
**Сьмярдзець**—вонять.



**Сьмярдзюк** *м.*—1) вонючка; 2) поганка (гриб).
**Сьмярдзючка** *ж.*—вонючка.
**Сьмярдзючы**—вонючий, зловонный.
**Сьмяротнасьць** *ж.*—смертность.
**Сьмяротнік** *м.*—приговоренный к смерти.
**Сьмяротны**—смертный,-тельный.
**Сьмятана,-танка** *ж.*—сметана; сливки.
**Сьмятак** *м.*—яйцо в смятку.
**Сьмяхотны**—юмористический, смешливый.
**Сьмяхун** *м.*—шутник, юморист.
**Сьмяцьце** *н.*—*см.* **сьмецьце**.
**Сьмяцюх** *м.*—жаворонок хохлатый (Alauda cristata). ЗТ.
**Сьнегавы**—снеговой, снежный.
**Сьнегазвал** *м.*—лавина. НТ₆,₈.
**Сьнеданьне** *н.*—завтрак.
**Сьнедаць**—завтракать.
**Сьнежань** *м.*—декабрь.
**Сьнежаньскі**—декабрский.
**Сьнітка,-сьніць** *ж.*—сныть (*бот.* Aegopodium L.). НТ₆.
**Сьніць** *што*—видеть во сне (что); *непер.*—грезить во сне (о чем). (*Сьні, тавaрыш аб камуне*. Ян. Куп. Безназ. 34 ст.).
**Сьпевы** *м. мн.*—1) пение; 2) песни.
**Сьпека** *ж.*—жар, зной.
**Сьпеласьць** *ж.*—зрелость.
**Сьпелесаваць** *што, каго*—исполосовать.
**Сьпелы**—зрелый.
**Сьпераду**—спереди.
**Сьперці**—*см.* **сьпіраць**.
**Сьпесьціць** *каго*—избаловать, изнежить.
**Сьпеў** *м.*—напев, ария.
**Сьпеўнік** *м.*—песенник, сборник песен.
**Сьпеўны**—песенный.
**Сьпех** *м.*—успех.
**Сьпешна**—успешно, поспешно.
**Сьпіж** *м.*—медь, медная посуда.
**Сьпіжатрны,-жовы**—медный; шпейсово-желтый. НТ₂.
**Сьпіжарня** *ж.*—кладовая для хранения медной посуды.
**Сьпірытус** *м.*—спирт.
**Сьпіс** *м.*—список, реестр, оглавление.
**Сьпісак** *м.*—копия.
**Сьпісваць,-саць** *што*—списывать, переписывать,-сать; снять копию.
**Сьпіхваць,-нуць** *каго*—сталкивать, столкнуть; снять с должности.
**Сьпічак** *м.*—острая палка, спица, вертел.
**Сьпявака** *м.*—певец.
**Сьпяваны**—петый.
**Сьпяваньне** *н.*—пение (*ср.* **пяяньне**).
**Сьпяваць**—петь.
**Сьпявачка** *ж.*—певица, певунья.
**Сьпякота** *ж.*—зной, жар. НТ₂ (*ср.* **сьпека**).
**Сьпячы**—испечь.
**Сьпяшацца,-шыцца**—поспешать, торопиться.
**Сьпяшыць** *каго*—понуждать к скорости, спешить.
**Сьсябравацца** *з кім*—сдружиться. Я. Кол. 113 XXVIII.
**Сьсякаць,-сячы** *што*—срубливать,-бить.
**Сьцёб** *выкл.*—хлоп! хлест! (удар плетью).
**Сьцебаніна** *ж.*—хлестание розгами.
**Сьцебануць**—хлестнуть.
**Сьцёбаць, сьцябаць** *каго*—хлестать, сечь розгами.
**Сьцежачка** *ж.*—тропиночка.
**Сьцежка** *ж.*—тропинка.
**Сьцеміць** *што, каго*—приметить в темноте.
**Сьценка** *ж.*—стенка, грань.
**Сьцень** *м.*—тень, привидение, призрак.

**Сьцінаньне** *н.*—отсечение.
**Сьцінаць, сьцяць** *што*—отсекать,-сечь; срубать,-бить; **-наць дух**—спирать дыхание.
**Сьціпласьць** *ж.*—скромность.
**Сьціплы**—скромный, тихий.
**Сьціраць, сьцерці** *што*—стирать, стереть.
**Сьціск** *м.*—давка, теснота.
**Сьціскальнасьць** *ж.*—сжимаемость.
**Сьціскальны**—сжимаемый.
**Сьцісканьне** *н.*—сжатие.
**Сьціскаць, сьцяць** *што*—сжимать,-жать.
**Сьцісла**—сжато, узко.
**Сьціслясьць** *ж.*—сжатость, узкость.
**Сьціслы**—сжатый, узкий, тесный; лапидарный (стиль). НТ₂.
**Сьціснутасьць** *ж.*—сжатость (земли. НТ₁.)
**Сьціснуты**—сжатый.
**Сьціха**—тихонько.
**Сьціхамірыцца**—успокоиться.
**Сьцюдзёнасьць** *ж.*—холодность.
**Сьцюдзёнка** *ж.*—холодная вода.
**Сьцюдзёны**—студеный, холодный.
**Сьцюдзень** *м.*—студень.
**Сьцюдзька** *ж.*—зяблик.
**Сьцюдзянець**—холодеть.
**Сьцябло** *н.*—стебель.
**Сьцябло-корань** *м.*—корневище. НТ₄.
**Сьцяг** *м.*—1) стяг, туша убитой скотины; 2) флаг.
**Сьцягно** *н.*—стегно, окорок.
**Сьцяжок** *м.*—флажок, парус.
**Сьцямлены**—примеченный.
**Сьцямляваць, сьцяміць** *што*—примечать,-метить; соображать,-зить.
**Сьцямлівасьць** *ж.*—сообразительность.
**Сьцямлівы**—сообразительный.
**Сьцярвяціна** *ж.*—стервятина.
**Сьцярпець**—стерпеть.
**Сьцяты**—срубленный, усеченный; срезанный. НТ₂.
**Сэнс** *м.*—смысл, толк.
**Сэнсоўнасьць** *ж.*—осмысленность. НТ₂.
**Сэнсоўны**—осмысленный. НТ₂.
**Сэрца** *н.*—сердце.
**Сэрцаваты**—сердцевидный. НТ₆.
**Сюдою** *прс.*—сюда, этой дорогой.
**Сябар,-бра** *м.*—друг, сотоварищ.
**Сябраваньне** *н.*—дружение.
**Сябраваць**—дружить.
**Сяброўскі**—дружеский.
**Сяброўства** *н.*—дружба.
**Сябрына** *ж.*—артель.
**Сявалка** *ж.*—сеялка, лукошко для зерен.
**Сявец** *м.*—сеятель (*ср.* **сяйбіт**).
**Сягоньня**—сегодня.
**Сягоньняшні**—сегодняшний.
**Сядаць**—сидеть, садиться.
**Сядок** *м.*—садок.
**Сядзіба** *ж.*—усадьба.
**Сядзэньне** *н.*—*см.* **садзеньне.**
**Сядуха** *ж.*—наседка.
**Сяйбіт** *м.*—сеятель.
**Сяканка** *ж.*—кушанье из мелко изрубленных кусочков теста.
**Сякач** *м.*—сечка.
**Сякера** *ж.*—секира, топор.
**Сялера** *ж.*—сельдерей (*бот.* Apium graveolens L.).
**Сяло** *н.*—село, деревня.
**Сялява** *ж.*—рапушка, сиг.
**Сялянячны**—идиллический. НТ₃.
**Сялянка** *ж.*—1) крестьянка, поселянка; 2) идиллия. НТ₂.
**Сялянскі**—крестьянский.
**Сялянства** *н.*—крестьянство, крестьяне.



**Сямёрка** *ж.*—семерка.
**Сямейка, сям'я** *ж.*—семья.
**Сяньнік** *м.*—сенник, матрац.
**Сярбайла** *н.*—лопало, хлебало.
**Сярбаць** *што*—хлебать.
**Сярдзіты**—сердитый.
**Сярод** *чаго*—среди.
**Сярэдак** *м.*—середка, середина.
**Сярэдкавы**—срединный.
**Сярпок** *м.*—серпуха (*бот.* Serratula L.). НТ₆.
**Сярэдзіна** *ж.*—середина, крестец у животных
**Сярэдні**—середний, средний.
**Сярэдніца** *ж.*—медиана (*мат.*). НТ₁.
**Сястра** *ж.*—сестра.
**Сяструха** *ж.*—сестрица.
**Сястрынец** *м.*—сын сестры, племянник по сестре.
**Сяўба** *ж.*—посев.
**Сяўнік** *м.*—севалка.

# Т

**Табака** *ж.*—табак; нюхательный табак.
**Табакерка** *ж.*—табакерка.
**Табачка** *ж.*—табачок.
**Табачковы**—табачного цвета.
**Табе**—дат. пад. от мест. ты.
**Табліца** *ж.*—таблица, доска.
**Тавар** *м.*—1) товар; 2) скот.
**Тавараздварот** *м.*—товарооборот.
**Таварамен** *м.*—товарообмен. НТ₂.
**Таварыскі**—товарищеский.
**Таварыства** *н.*—товарищество, общество.
**Таварыш, таварышка**—товарищ
**Таварышаваньне** *н.*—дружба, сопутствование.
**Таварышаваць**—дружить, сопутствовать.
**Таварышка** *ж.*—подруга, товарка.
**Таган** *м.*—таганка.
**Тагабочны**—потусторонний.
**Тагагодні,-рочны**—прошлогодний.
**Тагасьветны**—загробный.
**Таго часу**—в то время.
**Тадося** *ж. ўл.*—Федосья.
**Тады** *прс.*—тогда.
**Таемна**—тайно.
**Таемнасьць** *ж.*—тайна, тайность.
**Таемнік** *м.*—1) тайник; 2) петров крест (*бот.* Lathraea Squamaria L.).
**Таемны**—тайный.
**Таіцца**—скрываться, запираться.
**Таіць** *што*—утаивать, скрывать.
**Так званы**—так называемый.
**Такі** *злуч.*—же, впрочем; *займ.*—такой.
**Такі-сякі** *займ.*—кое-какой.
**Таклюся** *ж. ўл.*—Фекла.
**Таксаваньне** *н.*—оценка, таксация.
**Таксаваць** *што*—оценивать.
**Таксама**—также.
**Таксоўшчык** *м.*—оценщик.
**Талалюкаць**—кричать „талалю" (*Талалюкае ён у лапар.* Яс. Пад. р. н. 63 ст.).
**Тал** *м.*—проталина.
**Талака** *ж.*—артель, мирская помощь.
**Таланавітасьць** *ж.*—талантливость, одаренность.
**Таланавіты**—талантливый, одаренный.
**Таланіць** *дзс. безас.*—удаваться, счастливиться.
**Талань** *м. ж.*—дарование, счастье, доля.

**Таланьлівы**—счасливый, удачный.
**Талачанін** *м.*—участник „*талакі*".
**Талачыць** *што*—сбинать, топтать, мять (сенокос, пашню).
**Талачэча** *ж.*—сутолока. Я. Кол. НЗ VIII.
**Талент** *м.*—талант.
**Талентнасьць** *ж.*—талантливость.
**Талентны**—талантливый.
**Талерка** *ж.*—тарелка.
**Талызьнік** *м.*—мот.
**Талызьнічаць**—таскаться, мотать.
**Талька** *ж.*—тонкая пряжа; моток ниток.
**Тальля** *ж.*—колода карт.
**Там**—1) там; 2) туда.
**Тамабочны**—другобережный.
**Тамаваньне** *н.*—изнурение.
**Тамавацца**—томиться, изнуряться.
**Тамаваць** *каго*—томить, изнурять.
**Тамака**—там.
**Тамаш** *м. ул.*—Фома (*ср.* **Хама**).
**Тамбак** *м.*—томпак, бронза.
**Тамбаковы**—томпаковый, бронзовый.
**Тамбур** *м.*—крючок для вязанья
**Там-той (там-тая; там-тое)** *займ.*—вон-тот.
**Таму** *прс.*—потому, оттого.
**Тандэт** *м.*—дешевка; толкучий рынок.
**Тандэтны**—дешевый, лубочный. НТ3.
**Танєй** *прс. в. ст.*—дешевле.
**Танейшы, таньшы** *прм. в. ст.*—дешевейший.
**Таніць**—дешевить.
**Таніна** *ж.*—дешевизна.
**Танна,-ны**—дешево,-вый.
**Танцоўка** *ж.*—танцорка.
**Танцоўшчык** *м.*—танцор

**Таньчык** *м.*—танец, плясовая песня.
**Таньчыцца**—возиться, тешиться с кем.
**Таньчыць**—танцовать.
**Танюсенькі**—тоненький.
**Тапаркі** *м. мн.*—сорное растение во ржи.
**Тапельнік** *м.*—утопленник.
**Тапіна** *ж.*—топь.
**Тапіцца**—1) плавиться; 2) топиться.
**Тапіць** *што*—плавить; *каго*—утоплять.
**Тапленьне** *н.*—плавление.
**Тапляк** *м.*—плавик (флюорит) НТ1.
**Таполя** *ж.*—тополь (*бот.* Populus L.).
**Тапоршчыцца**—надуваться, важничаться.
**Тапоршчыць** *што*—надувать.
**Таптаць**—топтать.
**Тапчан** *м.*—широкая скамья для катания белья.
**Тапырыцца**—распускать перья, надуваться.
**Тар** *м.*—паром.
**Тарабан** *м.*—барабан.
**Тарабаніць**—барабанить, громыхать, стучать колёсами.
**Тарадайка** *ж.*—таратайка, легкая повозка.
**Таран** *м.*—вобла, тарань.
**Тараніць**—разбивать цепом пояс у снопов.
**Тарахцёлка** *ж.*—погремушка.
**Тарахцець**—дребезжать, греметь (о телеге).
**Тарахценьне** *н.*—дребезжание.
**Тарбаношка** *ж.*—кожаная сумочка.
**Тарганіна** *ж.*—тормошение, дерганье.
**Тарганьне** *н.*—дергание.
**Тарганць**—дергать, теребить.
**Таргоўля** *ж.*—торг, покупка.



**Тарнавацца**—приспособляться. МГ.
**Тарнаваць**—молотить не развязанные снопы.
**Тарпа** *ж.*—скирда.
**Тартак** *м.*—лесопильный завод.
**Тарча** *ж.*—щит.
**Тарчмаком** *прс.*—торчмя.
**Тасемка** *ж.*—тесемка.
**Тасьма** *ж.*—тесьма.
**Тата** *м.*—тятя, отец, папа.
**Татачка** *м.*—тятенька.
**Татка** *м.*—папка.
**Татуля** *м.*—папенька, батюшка.
**Таўканіна** *ж.*—толкотня, суетня.
**Таўканьне** *н.*—толкание.
**Таўкацца,-кануцца**—толкаться,-кнуться.
**Таўкаць,-кануць,-кнуць** *каго, што*—толкать,-кнуть.
**Таўкач** *м.*—пест.
**Таўлінка** *ж.*—берестяная табакерка.
**Таўлуй** *м.*—лентяй. Сержп.
**Таўро** *н.*—клеймо.
**Таўраваць** *што*—клеймить, класть клеймо.
**Таўрыць**—чахнуть, сохнуть от печали.
**Таўстуха** *ж.*—толстуха.
**Таўхацца,-хаць**—*см.* **таўкацца,-каць**.
**Таўхель** *выкл.*—толк!
**Таўхень** *м.*—толчок.
**Таўчы** *што*—толочь.
**Таўшчэразны,-чэрны**—толстенный.
**Тачыцца**—литься, выливаться.
**Тачыць**—лить, цедить.
**Таямнічасьць** *ж.*—таинственность.
**Таямнічы**—таинственный.
**Таямніца** *ж.*—тайна.
**Тванлівы**—болотистый, иловатый.
**Тванны**—болотный, тинный.
**Твань** *ж.*—тина, ил.

**Твар** *м. ж.*—лицо.
**Тварог** *м.*—творог.
**Тварогавы**—творожный.
**Тварык,-рычак** *м.*—личико.
**Тварыць** *каго, што*—творить, образовать, создавать.
**Твор** *м.*—творение, создание, произведение, сочинение.
**Творакрадзтва** *н.*—плагиат. НТ2.
**Творакрадца** *м.*—плагиатор. НТ2.
**Творны склон**—творительный падеж.
**Творца** *м.*—творец, создатель.
**Творчасьць** *ж.*—творчество.
**Творчы**—творческий.
**Ткальня** *ж.*—ткацкая мастерская.
**Тканіна,-нка** *ж.*—ткань.
**Ткліва**—колко; оскорбительно.
**Тклівасьць** *ж.*—колкость.
**Тклівы**—1) колкий, оскорбительный, досадный; 2) щекотливый.
**Тлен** *м.*—кислород.
**Тлень** *ж.*—гниль, тление.
**Тленьнік** *м.*—окись.
**Тло** *н.*—тлен, прах.
**Тлум** *м.*—шум, говор.
**Тлумач** *м.*—переводчик.
**Тлумачыцца**—об'ясняться.
**Тлумачыць** *што*—толковать, об'яснять.
**Тлумачэньне** *н.*—толкование, об'яснение.
**Тлуміць** *каго*—запутывать, сбивать с толка.
**Тлумна**—шумно; бестолково.
**Тлумны**—вздорный, бестолковый.
**Тлуста,-ты**—жирно,-ный.
**Тлустасьць** *ж.*—жир.
**Тлусьцець**—жиреть.
**Тлусьціць** *што*—сдабривать жиром.
**Тлушчак** *м.*—жировик, тальк. НТ3.
**Тлушчоўка** *ж.*—треска (Gadus morrhua) ЗТ.

**Тлушчы** *м. мн.*—жиры. НТ₇.
**Тля** *ж.*—тля, плесень.
**То-бо-то-што**—то-то оно.
**Тодар** *м. ўл.*—Федор.
**Тоесамасьць, тожсамасьць** *ж.* тожество, тожественность, идентичность.
**Тоесамы, тожсамы**—тожественный, идентичный.
**Тоеслоў'е** *н.*—тавтология. НТ₂.
**Той-самы**—тот-же самый.
**Ток** *м.*—ток (на гумне).
**Толькі**—только.
**Томка** *ж.*—донник (*бот.* Melilotus officinalis; **пахучая**—пахучий колосок (Anthoxanthum odoratum L.). НТ₆.
**Топкасьць** *ж.*—плавкость НТ₁.
**Топкі**—плавкий, твердый. *Топкае дно на рацэ.* Нк.
**Топленік** *м.*—утопленник.
**Торна,-ны**—убито. (*Торная дарога*).
**Торба** *ж.*—сума, котомка (*ср.* **кайстра**).
**Торбачка** *ж.*—сумочка: листовка (*бот.*). НТ₆.
**Торбачкавы**—сумчатый. НТ₆.
**Торбачнік** *м.*—ярутка (Thlaspi. Hill.). НТ₆.
**Торбачнікі** *мн.*—сумчатые животные. ЗТ.
**Торг** *м.*—базар, рынок, ярморка
**Тоўстая субота**—Дмитриеская суббота (26 октября)
**Тоўсты**—толстый.
**Тоўшча** *ж.*—толщина; **адкладаў**—мощность отложений. НТ₆.
**Тоўчаны**—толченый.
**Тофіль** *м. ўл.*—Феофил.
**Точка** *ж.*—медведка. Сержп.
**Тоючыся**—таясь.
**Травень** *м.*—май.
**Травеньскі**—майский.
**Травы** *ж. мн.*—травы, злаки (Gramineae). НТ₆.
**Травяністы**—богатый травой.
**Трайняк** *м.*—крепкий питной мед.
**Тракт** *м.*—тракт, почтовая дорога.
**Трактаваньне** *н.*—угощение, потчивание.
**Трактаваць** *каго*—угощать, потчивать.
**Траляваць**—вывозить бревна из лесу на пристань.
**Трам** *м.*—балка под потолком.
**Транты,-ніцы** *м. мн. л.*—тряпки, рухлядь.
**Трапаць** *што*—трепать.
**Трапечнік** *м.*—подлесник (*бот.* Sanicula L.). НТ₆.
**Трапіцца**—попасться, встретиться.
**Трапіць**—попасть.
**Трапло** *н.*—трепало.
**Трапляецца** *дзг. безас.*—случается.
**Трапляцца**—попадаться, встречаться.
**Трапна,-ны**—метко,-кий.
**Трапэз** *м.*—трапеция. НТ₁.
**Трасануць**—тряхнуть.
**Трасца,-суха** *ж.*—лихорадка, озноб.
**Трасяніна** *ж.*—перетряска. (*Трасяніна ад ўсіх граматычных адносінах.* Яв. Лёс. Кн. 29 ст.).
**Траўніца** *ж. мн.*—тля, растит. вши. ЗТ.
**Траўнічок** *м.*—славка пересмешка (Sylvia curruca). ЗТ.
**Трахануцца**—дрогнуть.
**Трахануць**—тряхнуть.
**Трахаць,-хнуць**—трещать, -снуть.
**Трацiцца**—1) теряться; 2) издерживаться.
**Траціць** *што*—1) терять; 2) проматывать.
**Трояк** *м.*—1) три копейки; 2) тройник. НТ₆.



**Траяны** *м. мн.*—треножник для подвешивания колыбели.
**Тройны**—тройной.
**Тройца** *ж.*—тройца; тройка.
**Тройчы** *прм.*—троичный; *прс.* —трижды.
**Тронак** *ж. мн.*—ручка у ножа.
**Тропацца,-пнуцца**—ударяться, удариться; треснуться.
**Тропаць,-пнуць** *што*—трепать, трепнуть; бить, побить.
**Тропка** *ж.*—1) трепка, наказание; 2) тропинка.
**Троска чаротавая**—трезубка овсяничная (*бот.* Graphephorum arundinaceum. Asch.). НТ₆.
**Трост** *м.*—мера в 60 коп.—3.600 меток вьюнов.
**Трохі, троху**—немного.
**Трохпалёўка**—трехполье, трехпольная система полеводства. НТ₃.
**Трохсьценны**—трехгранный.
**Трохчлен** *м.*—трехчлен. НТ₁
**Трошачкі,-шкі,-шку**—немножко.
**Трубка** *ж.*—1) ступица в колесе; 2) сверток.
**Труіць** *каго, што*—отравлять, расстраивать.
**Труна** *ж.*—гроб.
**Трунак** *м.*—напиток.
**Трунка** *ж.*—гробик.
**Трунны**—гробовой.
**Труп** *м.*—1) труп; 2) гниль.
**Трупехласьць** *ж.*—гнилость.
**Трупехлы**—гнилой.
**Трупехнуць**—гнить.
**Трусак** *м.*—сор, мелочь, дребезги.
**Трусачка** *ж.*—щепочка.
**Трусік** *м.*—кролик (Lepus cuniculus).
**Трусіцца**—1) сыпаться, рассыпаться; 2) дрожать.
**Трусіць** *што*—сыпать, рассыпать.
**Труска** *ж.*—мелкорыбица.
**Трускаўкі** *ж. мн.*—клубника (Fragaria viridis. Duch.). НТ₆.
**Трускі**—тряский.
**Труснуць**—хруснуть.
**Трусьціць** *што*—ломать, дробить.
**Трухам** *прс.*—трусцой.
**Трухлець**—гнить, истлевать.
**Трухлы**—гнилой.
**Трухлявасьць** *ж.*—гнилость.
**Трухлявы**—1) гнилой; 2) слабый здоровьем, дохлый.
**Трухляк** *м.*—дохляк; гнилое дерево.
**Трухлянціна** *ж.*—гниль.
**Трухлячка** *ж.*—нездоровая, хилая.
**Трухцець**—трещать (*Не раз лабаціна трухцела.* Яв. Кол. НЗ III).
**Труцень** *м.*—1) трутень; 2) лентяй.
**Труцізна** *ж.*—отрава.
**Труціць** *каго*—травить.
**Тручаны**—издохший от отравы.
**Трушанка** *ж.*—1) смесь; 2) сено, смешанное с соломой.
**Трушком** *прс.*—мелкой рысью.
**Трушчына** *ж.*—гуща на дне.
**Трушчаць**—хрустеть.
**Трыбух** *м.*—внутренности, живот, пузо.
**Трыбухі** *м. мн.*—кишки, требуха.
**Трыбушкі** *м. мн.*—внутренности мелких животных.
**Трыбушок** *м.*—животик, пузцо.
**Трыбушыць** *каго*—потрошить.
**Трыбушонік** *м.*—штопор.
**Трывала**—выносливо, прочно.
**Трываласьць** *ж.*—выносливость, прочность.
**Трывалы**—выносливый, прочный.
**Трываньне** *н.*—пребывание; -не *дзеяслову*—вид глагола (*грам.*).

**Трываць**—пребывать; выносить, терпеть.
**Трывога** *ж.*—тревога.
**Трывожны**—тревожный.
**Трывожыць** *каго*—тревожить.
**Трыгубка** *ж.*—трехзубец для убивания рыбы.
**Трыгубы**—трехгубчатый.
**Трызвон** *м*—трезвон.
**Трызубка** *ж.*—трехзубка (*бот.* Triodia R. Br.). НТ$_6$
**Трызьніцца** *дзс. безас.*—грезиться.
**Трызьніць**—бредить во сне, нести вздор.
**Трыклятый**—заклятый. (*Трыклятый вораг*).
**Трыкротна,-роць**—троекратно, три раза.
**Трыкротны**—троекратный.
**Трыкутнік** *м.*—треугольник. НТ$_1$.
**Трыкутнікаваньне** *н.*—триангуляция. НТ$_1$.
**Трыкутны**—треугольный.
**Трымаласьць** *ж.*—выдержанность.
**Трыманы**—выдержанный, воздержный.
**Трыманьне** *н.*—1) держание; 2) поведение. НТ$_1$.
**Трымацца**—держаться.
**Трымаць** *што, каго*—держать, удерживать.
**Трынаццаты,-наццаты**—тринадцатый.
**Трынаццаць,-наццаць**—тринадцать.
**Трынасеньнік** *м*—триостренник (*бот.* Triglochin L.). НТ$_6$.
**Трыножка** *ж.*;**-ножнік** *м.*—треножник.
**Трыножыць** *каго*—треножить, путать лошадь.
**Трыперсьніца** *ж.*—манжетка (*бот.* Alchemilla L.).
**Трыпутнік** *м.*—подорожник (*бот.* Plantago L.).
**Трыста**—триста.
**Трысьнік** *м.*—тростник.
**Трысьцё** *н. зб.*—тростник (собир.).
**Трысьцен,-ценак** *м.*—1) трехгранник; 2) сарайчик из трех стен, навес.
**Трысьценны**—трехстенный, трехгранный.
**Трысьціна** *ж.*—палка, трость; **-на** *цукровая*—сахарный тростник. НТ$_3$.
**Трысьцінка** *ж.*—тросточка.
**Трысьцінавы**—тростниковый.
**Трысьціць** *што*—ломать что-л. слоистое.
**Трыццатка** *ж.*—монета в 30 к.
**Трыццаты**—тридцатый.
**Трыццаць**—тридцать.
**Трышчаньне** *н.*—дробление.
**Трышчыцца**—крошиться, дробиться.
**Трышчыць** *што*—крошить, дробить.
**Трэба, трэ**—нужно.
**Трэйці**—*см.* **трэці**.
**Трэска** *ж.*—щепка.
**Трэскацца,-скаць,-снуць**—трескаться, треснуть.
**Трэскаць**—1) ломить с треском; 2) лопать.
**Трэсьці** *што*—трясти, потрясать.
**Трэф** *м.*—треф, запрещение к употреблению.
**Трэфны**—трефный, запрещенный к употреблению.
**Трэці,-цяя,-цяе**—третий.
**Ту** *выкл.*—тьфу (*Ту, які ты!*).
**Тубылец** *м.*—местный житель, абориген, автохтон.
**Тубылка** *ж.*—аборигенка.
**Тубыльны**—автохтонный НТ$_1$.
**Туга** *ж.*—скорбь, печаль.
**Тугі,-гі**—1) тугой, туго натянутый; 2) крепкий, сильный (*Тугі мароз*).



**Тудою**—туда, там, по тому месту.
**Туды-сюды**—1) туда сюда; 2) там и сям; 3) кое-как.
**Тужба** *ж.*—печаль, забота.
**Тужлівы**—скорбный.
**Тужыць** *што*—туго натягивать.
**Тужыць**—скорбеть, горевать.
**Тужэць**—становиться туже.
**Тужык** *м*—нытик.
**Тузала** *м.*—потасовщик.
**Тузаніна** *ж.*,**-заньне** *н.*—потасовка, возня.
**Тузацца**—бороться, возиться.
**Тузаць** *каго, што*—тузить, ругать; дергать. (*Тузанулі Рыгора за руку*. СЦ. 34 ст.).
**Тузін** *м.*, **зіна** *ж.*—дюжина.
**Тук** *м.*—жир, сало.
**Тукала** *м.*—глухой.
**Тул** *м.*—тыл, зад (*ср.* **тыл**).
**Тулава** *н.*—туловище.
**Тулам** *прс.*—задом.
**Тулаўны**—туловищный.
**Туліпан** *м.*—тюльпан (*бот.* Tulipa L.). НТ$_6$.
**Туліцца**—укрываться, притаиваться. (*Буржуй за вугал туліцца*... М. Чарот, Бос. н. в.)
**Туліць** *каго*—укрывать.
**Туляка** *м.*—шатун, бродяга.
**Туляцца**—1) скрываться по углам; 2) шататься, слоняться.
**Тумак** *м*—удар по затылку.
**Туман** *м.*—1) туман; 2) обман.
**Туманіцца**—затуманиваться.
**Туманіць** *што, каго*—затуманивать, затемнить, пускать в глаза пыль.
**Тумар** *м.*—тысячник, богач.
**Тумарка** *ж.*—богачка (*ср. слав.* **тма**).
**Тупат** *м*—топот.
**Тупаньне** *н.*—топанье.
**Тупаць,-пнуць,-пануць**—топать,-пнуть.
**Тупень** *м.*—тупица, непонятливый.
**Тупіца** *ж.*—затупленный топор; тупица.
**Тупіць** *што*—тупить, затуплять.
**Тупы**—тупой.
**Тур** *м.*—тур, буйвол.
**Турбаваньне** *н.*—обеспокоение, утруждение.
**Турбавацца**—беспокоиться, хлопотать.
**Турбаваць** *каго*—беспокоить, утруждать.
**Турбацыя** *ж.*—беспокойство, хлопоты.
**Турбованы,-баваны**—обеспокоенный.
**Турбота** *ж.*—беспокойство, хлопоты.
**Турботны**—хлопотный.
**Турка** *м.*—турок.
**Туркала** *аг.*—торкала, будильщик.
**Туркалка** *ж.*—трещотка (род лягушек).
**Туркаць**—1) торкать; будить, расталкивая; 2) трещать.
**Туркацець**—громыхать колесами.
**Туркнуць**—протрещать.
**Турма** *ж.*—тюрьма (*ср.* **астрог**).
**Турнуць** *каго*—толкнуть, пугнуть, посунуть.
**Турок** *м.*—волчёк.
**Турчаньне** *н.*—трещание.
**Турчаць**—трещать, мурлыкать.
**Турчык** *м.*—горлица (голубь).
**Турыца** *ж.*—дикая корова.
**Турыць** *каго*—гнать, понуждать; *непер.*—бежать.
**Турэччына** *ж. ўл.*—Турция.
**Тускнота** *ж.*—тоска. НЗ XXX.
**Тутака**—тут, здесь.
**Тутэйшы**—здешний.
**Тухаль** *ж.*—тление, гниль. Я. Кол. НЗ XXX.
**Тухвяк** *м.*—тюфяк.
**Тухлены**—протухлевый, тухлый.

**Тухліна** *ж.*—затхлость, гнилость.
**Тухліць**—вонять.
**Тухлы,-лавы**—тухлый, затхлый
**Тухляціна** *ж.*—гниль.
**Тухлянішча** *н.*—вонь.
**Тхор** *м.*—хорек (Mustella putorius).
**Тхаць, тхнуць**—дышать, дохнуть, повеять.
**Тхліна** *ж.*—гнилость, затхлость.
**Тхаровы**—хорьковый
**Тхарына** *ж.*—мясо хорька.
**Тхорык** *м.*—уменьш. от. **тхор.**
**Тыгра** *ж.*—тигр.
**Тыграм** *прс.*—зверски.
**Тыгрыца** *ж.*—тигрица, злая женщина.
**Тыдзень** *м.*—неделя.
**Тыднёвік** *м.*—еженедельник (журнал).
**Тыднёвы**—еженедельный.
**Тыл** *м.*—тыл, зад.
**Тылавы,-льны**—задний, тыльный.
**Тымчасова,-вы**—временно,-ный
**Тын** *м.*—изгородь, тын.
**Тыніць**—огораживать тыном.
**Тынк** *м.*—штукатурка.
**Тынкаваньне** *н.*—штукатурение.
**Тынкаваць** *што*—штукатурить
**Тып** *м.*—тип.
**Тыповасьць** *ж.*—типичность.
**Тыповы**—типический,-чный.
**Тыран** *м.*—мучитель, тиран.
**Тыранка** *ж.*—истязательница, мучительница.
**Тырк** *часьцінка*—торк.
**Тырканьне** *н.*—торканье.
**Тыркаць,-кнуць**—торкать, торкнуть.
**Тытун** *м.*—табак обыкновенный (*бот.* Tabacum L.); махорка.
**Тытуновы**—махорочный.
**Тыханьне** *н.*—биение (сердца).
**Тыхаць,-хнуць**—1) дышать, дохнуть; 2) колотиться, биться (о сердце).
**Тычачка** *ж.*—тычинка (stamen). НТ$_{6}$.
**Тычка** *ж.*—тычинка, веха, колышек.
**Тычына** *ж.*—заостреный шестик.
**Тэкля** *ж. ўл.*—Фекла.
**Тэрмін** *м.* 1) срок; 2) термин.
**Тэрмінова**—срочно.
**Тэрміновасьць** *ж.*—срочность.
**Тэрміновы**—срочный.
**Тэстамэнт** *м.*—завещание.

## У

**У (ў)** *чым*—в (чем), во (что).
**Убагаўленьне** *н.*—обожествление, апофеоз. НТ$_{2}$.
**Убагаўляць,-гавіць** *каго*—обожествлять,-вить.
**Убегчы**—убежать.
**Убівацца, убіцца** *дзс. н.*—1) убиваться,-биться, 2) вбиваться, вбиться; влезать.
**Убіваць, убіць** *каго*—убивать, убить; *што*—вколачивать, вколотить.
**Убіраньне** *н.*—наряжение, прибирание.
**Убірацца, убрацца**—1) прибираться,-браться; наряжаться; 2) убираться, уходить; **ў розум**—войти в розум. (*Чк-жа ў розум убярэцца твой сынок* Ян. К. Спад. 20 ст.).
**Убіраць, убраць** *што*—прибирать, прибрать; украшать, украсить.
**Убіты**—обитый, вколоченный, укатанный утоптанный (о дороге).
**Убогі**—бедный; нищий.
**Убогая**—нищенка, бедная.



**Убожыцца**—доходить до нищеты.
**Убожыць** *каго*—доводить до нищеты.
**Убольшыцца**—увеличиться Ц. Гарт. СЦ. 98 ст.
**Убор** *м.*—наряд, облачение.
**Убоства** *н.*—убожество.
**Убраны**—убранный, одетый.
**Убрусіцца**—замочиться уриной.
**Убываньне** *н.*—убывание.
**Убываць, убыць**—убывать, убыть.
**Убылы**—убывший.
**Убытак** *м.*—убыль. НТ$_{1}$.
**Убяганьне** *н.*—1) убегание, уход; 2) ухаживание за нем.
**Убягаць**—1) убегать, уходить; 2) ухаживать.
**Ува** *прыйм.*—*см.* **у.**
**Увага** *ж.*—внимание.
**Уважліва,-жна**—уважительно, внимательно.
**Уважлівасьць,-жнасьць** *ж.*—уважительность, внимательность.
**Уважлівы,-жны**—уважительный, почтительный, внимательный.
**Увайсьці**—войти.
**Уваліцца**—ввалиться, упасть.
**Уварвацца**—ворваться, отторгнуться.
**Увасабленьне** *н.*—олицетворение, прозопопея. НТ$_{3}$.
**Увасабляць,-собіць** *што*—олицетворять,-рить.
**Увасоблены**—олицетворенный.
**Уваўрэлы**—взопревший.
**Уваўрэць**—взопреть.
**Уваход** *м.*—вход (*ср.* **увайсьце**).
**Увачавідкі**—воочию.
**Увачччу**—в глазах, перед глазами.
**Уверсе**—вверху.
**Увесь, уся, усё**—весь, вся, всё.
**Увечар,-ры** *прс.*—вечером.
**Увільнуць**—уклониться, избежать.
**Увінацца,-нуцца**—1) увиваться около; 2) обвиваться, обвиться
**Увінаць,-нуць** *што, каго*—обвивать,-вить; укутывать,-тать
**Увод** *м.*—ввод, введение, обольщение.
**Уводзіны** *ж. мн.*—введение (в новый дом).
**Уводка** *ж.*—обольстительница, изменница.
**Уводнік** *м.*—обольститель, обманщик.
**Уводны**—обольстительный, обманный.
**Увойсьце** *н.*—вход (*ср.* **уваход**).
**Увосень** *прс.*—осенью.
**Увыгодніць**—сделать удобным. Яз. Лёс. Км.
**Увыдатнены**—утрированный. НТ$_{3}$.
**Увыдатненьне** *н.*—утрировка. НТ$_{1}$.
**Увыдатняць** *што*—делать выдающимся, утрировать.
**Увядзёнка** *ж.*—*см.* **уводка**
**Увязненьне** *н.*—заключение.
**Увяльбяць** *каго*—возвеличивать.
**Увярэднік** *м.*—мытник (*бот.* Pedicularis L).
**Увясну** *прс.*—весной.
**Угаворна** *прс.*—подоговору.
**Угаворны**—договорный.
**Угадлівы**—сообразительный догадливый.
**Угамаваньне** *н.*—успокоение, усмирение.
**Угамаваны,-мованы**—успокоенный.
**Угамоўвацца,-мавацца**—успокаиваться,-коиться; усмириться,-риться.
**Угамоўваць,-маваць** *каго*—успокаивать,-коить; усмирить, утишить.

**Уганьваць, уганяць, угнаць** *каго*—1) угонять, угнать; 2) догонять, догнать.
**Угар** *м.*—хват, молодец на все руки.
**Угару** *прс.*—в гору, вверх.
**Угін** *м.*—выгнутость, мульта, синклиналь. НТ$_1$.
**Угінацца, угнуцца**—1) вгибаться, вогнуться; 2) выгибаться, вогнуться.
**Угінаць, угнуць** *што*—вгибать, вогнуть, наклонять, сгибать.
**Угледжаны**—усмотренный, замеченный.
**Угледжваць,-дзіць** *што, каго*—усматривать, усмотреть; заметить.
**Углыбкі** *прс.*—в глубину.
**Угнасьньне** *н.*—унавоживание, удобрение.
**Угноены**—унавоженный.
**Угнойваць, угнаіць** *што*—унавоживать,-возить.
**Угнута,-ты**—вогнуто,-тый.
**Угнутасьць** *ж.*—вогнутость.
**Угнуцьце** *н.*—вогнутие, мульда, синклиналь. НТ$_1$.
**Угнявіцца**—разгневаться (*Ці на мяне пан угнявіўся.* НЗv).
**Угода** *ж.*—1) угождение; 2) уговор.
**Угодзьдзе** *н.*—1) выгода; 2) приволье.
**Угодкі** *м. мн.*—годовщина.
**Угору** *прс.*—*см.* угару.
**Угрубкі** *прс.*—в толщину.
**Угрудкі** *прс.*—грудь с грудью.
**Угрузлы**—завязший.
**Угрузаць,-зьці,-знуць**—вязнуть, завязнуть.
**Угрунтаваньне** *н.*—обоснование.
**Угрунтованы**—обоснованный НТ$_1$.
**Угрунтоўвацца,-тавацца**—обосновываться, обосноваться.
**Угрунтоўваць,-таваць** *што*—обосновывать,-новать; утверждать на твердом грунте.
**Угрунь** *прс.*—бегом.
**Удава** *ж.*—вдова.
**Удавала** *м.*—доносчик.
**Удаваньне** *н.*—рисовка, позировка НТ$_1$.
**Удавацца**—представляться, рисоваться, позировать, придаваться.
**Удаваць,-даць**—1) представлять кого; имитировать; 2) изменять тайне; 3) клеветать, наклеветать.
**Удавец** *м.*—вдовец.
**Удака** *ж.*—удача.
**Удалы**—1) удачный, ловкий; 2) удачный.
**Уданьне** *н.*—1) притворство, имитация; 2) клевета.
**Удасканалены**—усовершенствованный.
**Удасканаленьне,-нальваньне** *н.*—усовершенствование.
**Удасканальваць,-наліць** *што*—усовершенствовать.
**Удатны**—удачный, способный.
**Удаўне,-ні**—давно, в старину.
**Удаўнены**—ставший давним, устарелый.
**Удаўніваць,-ніць**—доводить, довести до давности.
**Удача** *ж.*—1) удача, успех; 2) натура, характер.
**Удачлівы,-чны**—удачны.
**Удвох, вух**—вдвоем (муж. и ср. р.).
**Удзел** *м.*—удел, участие (*ср.* удзельнік).
**Удзельнік** *м.*—участник (*ср.* удзельнік).
**Удзельніца** *ж.*—участница.
**Удзень** *прс.*—днем.
**Удзесяцёх**—вдесятером.
**Удзьвех, вдзьвюх**—вдвоем (ж. р.)
**Удзячна, ны**—благодарно,-ный.



**Удзячнасьць** *ж.*—благодарность.
**Удзюбацца**—упиться хмельным, опьянеть.
**Удзюндзіцца**—умочиться собственной мочой.
**Удовы**—вдовий, вдовый.
**Удод** *м.*—удод (птица).
**Удойная**—дающая много молока.
**Удосталь**—вдоволь, до остатку.
**Удосьвета,-тку**—рано утром.
**Удоўж**—вдлину.
**Удоўжваць, удоўжыць** *што*—удлинять,-нить.
**Удоўка** *ж.*—вдовушка.
**Удратаваць** *што*—обвить проволокой.
**Удубальт** *прс.*—вдвойне.
**Удубець**—окоченеть, отвердеть.
**Удумны** *прм.*—вдумчивый. Я. Кол. НЗ хі
**Удушыць** *каго*—придушить, задушить.
**Удыбкі** *прс.*—вздыбы.
**Уедлівы**—злой, навязчивый, надоедливый.
**Уедна, ужна**—сытно.
**Уедны, ужны**—сытный.
**Уезьдзіцца**—заездиться, умаяться при езде.
**Ужо**—уже.
**Ужо ж.** *выкл.*—вот (угроза); да вот недоверие).
**Ужывальны**—употребительный.
**Ужываны**—бывший в употреблении; употребляемый.
**Ужываньне** *н.*—употребление, пользование.
**Ужывацца** быть в употреблении.
**Ужываць, ужыць** *што*—употреблять,-бить, пользоваться (чем).
**Ужыравацца**—вскормиться.
**Ужыраваць** *каго*—вскормить, выкормить.
**Ужытак** *м.*—употребление, пользование; польза.
**Ужытачны**—полезный, годный к употреблению.
**Ужыткі** *м. мн.*—пожитки.
**Узаемна**—взаимно.
**Узаемна-адваротны**—взаимно-обратный. НТ$_1$.
**Узаемнасьць** *ж.*—взаимность.
**Узаемны**—взаимный.
**Узапар** *прс.*—разом, вдруг, вместе.
**Узараць** *што*—вспахать.
**Узачы, узаччы** *прс.*—заочно.
**Узашый** *прс.*—по шеям.
**Узбагачаньне,-чэньне** *н.*—обогащение.
**Узбагачацца,-гаціцца**—обогащаться,-гатиться.
**Узбагачаць,-гаціць** *каго, што*—обогащать,-гатить.
**Узбажалася** *дзс. безас.*—захотелось.
**Узбаламучаны**—взбаламученный, возмущенный.
**Узбаламучваць,-муціць** *што, каго*—взбаламучивать,-мутить; возмущать,-тить.
**Узбраеньне** *н.*—вооружение.
**Узброены**—вооруженный.
**Узбройвацца,-роіцца**—вооружаться,-житься; снарядиться.
**Узбройваць,-роіць** *каго*—вооружать,-жить; снаряжать,-рядить.
**Узбуджаны**—возбужденный.
**Узбуджацца,-дзіцца**—возбуждаться, возбудиться.
**Узбуджаць,-дзіць** *каго*—возбуждать, возбудить.
**Узбуджальнасьць** *ж.*—возбудимость. НТ$_1$.
**Узбуджальны**—возбудимый.
**Узбуджэньне** *н.*—возбуждение. НТ$_1$.
**Узбураны**—возмущенный, взволнованный.

**Узбурвацца,-рыцца**—возмущаться,-титься; взволноваться.
**Узбурваць, рыць** *каго, што*—возмущать,-тить, взволновать
**Узбурэньне** *н.*—возмущение.
**Узвораны**—вспаханный.
**Узвышша** *н.*—возвышенность. НТ$_3$.
**Узгадавальнік** *м.*—воспитатель.
**Узгадаваньне** *н.* воспитание, вскормление.
**Узгадненьне** *н.*—согласование, координация. НТ$_4$.
**Узгадаваны,-даваны**—воспитанный, вскормленный.
**Узгадоўваць,-даваць** *каго*—воспитывать,-тать.
**Узгалоўе** *н.*—изголовье.
**Узгалоўка** *ж.*—подушка.
**Узганак** *м.*—площадка на крыльце.
**Узгараньне** *н.*—возгорание. НТ$_1$.
**Узгарацца,-рэцца**—возгораться,-реться.
**Узгорак** *м.*—холм, бугор.
**Узгор'е** *н.*—холмистая местность.
**Уздолець**—возыметь силу.
**Уздоўж** *прс.*—в длину.
**Уздоўжны**—продольный. НТ$_1$.
**Уздрыгацца,-гнуцца**—содрогаться,-гнуться.
**Уздрыгі** *м. мн.*—дрожь.
**Уздрыжка** *ж.*—вздрагивание.
**Уздухі** *м. мн.*—1) дыхание; 2) область лёгких.
**Уздымаць, уздуць**—вздувать, вздуть, поднимать, поднять.
**Уздыханьне** *н.*—вздыхание.
**Уздыхаць,-хнуць**—вздыхать, вздохнуть.
**Уздэчка** *ж.*—узда с удилами.
**Узімку** *прс.*—зимою.
**Узмацненьне** *н.*—усиление, укрепление.

**Узмацнець**—укрепиться, поздороветь.
**Узмацняцца,-ніцца**—укрепляться,-питься; приходить, прийти в силу.
**Узмацняць,-ніць** *каго, што*—укреплять,-пить; усиливать, -лить.
**Узмор'е** *н.*—взморье.
**Узмучоны**—возмущенный, взволнованный, неспокойный
**Узмушчаць, узмуціць** *што, каго*—возмущать, возмутить.
**Узнасіцца, узьнесьціся**—возноситься, вознестись; восторгаться, восторгнуться.
**Узнасіць, узьнесьці** *каго, што*—возносить, вознести; поднимать, поднять.
**Узносны**—возвышенный.
**Узносіны** *ж. мн.*—возношение.
**Узносы** *м. мн.*—взносы. НТ$_1$.
**Узор** *м.*—пример, образец; узор; трафарет. НТ$_2$.
**Узоравы, узорны**—примерный, образцовый; трафаретный.
**Узраньне** *н.*—рассвет.
**Узрастаньне** *н.*—возрастание.
**Узрастаць, сьці**—возрастать, возрасти.
**Узрасьціць** *каго, што*—возрастить.
**Узрок** *м.*—взгляд.
**Узрослы,-сны**—взрослый, возрастный.
**Узрост** *м.*—возраст.
**Узрочна**—ясно, наглядно.
**Узрочнасьць** *ж.*—наглядность.
**Узрочны**—наглядный, видный.
**Узруньваць,-ніць**—покрываться, покрыться зеленью.
**Узрупіцца**—захлопотиться.
**Узрушаны**—встревоженный, взволнованный.
**Узрушвацца,-шацца,-шыцца**—встревоживаться,-житься; расстроиться.



**Узрушваць,-шаць,-шыць** *каго*—встревоживать,-жить.
**Узрыгацца**—расплакаться навзрыд.
**Узыймацца, узьняцца**—подниматься,-няться; взойти.
**Узыйсці,-йсьці**—взойти.
**Узысканьне** *н.*—взыскание. (*Рукою божага ўзысканьня.* Я. Кол. НЗ 62 ст.).
**Узьбежны**—восходящий. (*Узьбежны ток*). НТ$_4$.
**Узьбягаць, узьбегчы**—взбегать, взбежать.
**Узьбярэжжа** *н.*—побережье, прибережье.
**Узьбярэжны**—прибрежный.
**Узьведзены**—1) возведенный на верх; 2) наклеветанный.
**Узьвей-вецер** *м.*—ветрогон.
**Узьвесьці**—1) возвести на верх; 2) наклеветать.
**Узьвялічваць,-лічыць** *каго*—возвеличивать,-чить.
**Узьлесьсе** *н.*—лесная опушка.
**Узьляганьне** *н.*—возлегание.
**Узьлягацца, узьлегчыся**—облокачиваться, котиться; налечь, насесть на что.
**Узьлягаць, узьлегчы**—возлегать,-лечь; прилечь.
**Узьлязаць, узьлезьці**—взлезать, взлезть.
**Узьмежак** *м.*—место от межи до изгороди. Ян. Шл. ж. 161 с.
**Узьміласьціцца**—смилостивиться
**Узьмітусіцца**—взволноваться.
**Узьмітусіць** *што, каго*—возмутить, взволновать.
**Узьнёслы**—возвышенный, восторженный. НТ$_2$.
**Узьнесьці**—*см.* **узнасіць**.
**Узьнікаць, узьнікнуць**—возникать, возникнуть.
**Узьнікненьне** *н.*—возникновение, генезис. НТ$_4$.
**Узьніманьне** *н.*—поднимание; вскрытие (реки).

**Узьнімацца,-няцца**—1) подниматься, няться; взойти, встать; 2) вскрываться, вскрыться (о реке).
**Узьняцьце** *н.*—поднятие, восход.
**Узяцьце** *н.*—взятие.
**Узяць** *што, каго*—взять;-ць пад увагу—принять во внимание.
**Укалыханы**—убаюканный.
**Укалыхаць** *каго*—убаюкать.
**Укарачаны**—укороченный.
**Укарачаць,-наць** *што*—укоротить, отрубить (хвост).
**Укараньваньне** *н.*—вкоренение, внедрение.
**Укараньвацца, раніцца**—вкореняться,-ниться; внедряться,-риться.
**Укараньваць,-раніць** *што*—вкоренивать,-нить; внедрять,-рить.
**Укідваць, укінуць** *што*—вбрасывать, вбросить.
**Укінуты**—вброшенный.
**Уклад** *м.*—1) система, строй, уклад; 2) вклад.
**Укладальнік** *м.*—систематизатор, составитель. НТ$_2$.
**Укладаньне** *н.*—укладка, систематизация.
**Укладацца, уклесьціся**—укладываться, уложиться.
**Укладаць, укласьці** *што, каго*—укладывать, уложить; составлять, вить, систематизировать.
**Укладны**—вкладной.
**Укладовы**—систематический. НТ$_4$.
**Уклейваньне** *н.*—вклеивание.
**Уклейваць, леіць** *што*—вклеивать,-ить.
**Уклон** *м.*—поклон.
**Уключаць,-чыць** *што*—включать,-чить.
**Укомканы**—втиснутый.

